*Няхай жыве саюз рабочых і сялян.*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

двухтыднёвы літаратурна мастацкі дадатак да „Беларускай Вёскі“

№ 3 23-га лістапада 1926 г. № 3

## Якубу Коласу, народнаму поэту Беларусі ў дзень 20-годзьдзя яго літаратурнай творчасьці прысьвячае рэдакцыя гэты нумар.



## Водгульле

Ці коска зазвоніць ў лугох раніцою,
Ці песьню дзяўча запяе,
Ці конік ў дарозе праскочыць трусцою,
Ці вецер ў палёх зазлуе.

Ці гром гучнабежны пракоціцца ў хмарах,
Ці грукне над лесам пярун,—
Усё водгук знаходзіць ў бязьмежных абшарах,
Усё іх дакранаецца струн.

А ты, калі гора каго напаткае,
Ці жальба пачуецца, плач,
Або запануе дзе крыўда ліхая,—
На ўсё адгукніся, адзнач!

А радасьць пачуеш, надзеі ўзаўюцца,
Каб добрыя весткі падаць,
Няхай тады струны твае засьмяюцца
І песьняю шчасьця гучаць!

ЯКУБ КОЛАС.

**Толькі пры Савецкай Уладзе, пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі можа свабодна разьвівацца нацыянальная культура, зможа адрадзіцца, яшчэ нядаўна прыгнечаная сярмяжная Беларусь.**

**Я. КОЛАС.**

Р. Шукевіч-Трацьцякоў.

# З „ціхай вады"—на прасторы жыцьця

## Быцьцё вызначае сьвядомасьць

У простай сялянскай хаце радзіўся Якуб Колас.

Таму сялянскае жыцьцё адбівае ён, раней за ўсё, у сваіх творах.

У Мікалаеўшчыне, дзе „срэбраводны" Нёман ужо робіцца судаходным, малады Кастусь пачаў „першыя крокі" свайго жыцьця.

У Акінчыцкім лясьніцтве, дзе, як кажуць тамтэйшыя сяляне, „бор з небам гаворыць", пазнаў ён харастео прыроды.

Старадаўні Сьвержан з яго каменнымі царквамі азнаёміў яго з жыцьцём заціснутага ў „чарту аседласьці" местачковага яўрэйства. Абнесеная мураванай сьцяной сталіца „нясьвіскіх царкоў"—князёў Радзівілаў—Несьвіж, дзе сялянства цалкам залежыла ад міласьці „яснавяльможнага" князя, зрабіў з чулага вясковага хлапца ня толькі настаўніка, але і грамадзяніна, які ў „песьнях жальбы" аплакваў гора й нядолю роднага яму беларускага мужыка.

Руіны Міра моўчкі, але яскрава давodзілі яму, што нават самым вялікім і ганаровым дасягненьням паншчыны і прымусу бывае канец, як прышоў канец і панскаму палацу ў «Сымоне Музыку».

Ганцавічы, Сіняўка, Малкавічы, Люсіна—„палеская глуш"—вось дзе ён пачаў адчуваць сябе ня толькі настаўнікам дзяцей, але і кіраўніком думак дарослых.

У сэрцы Беларусі, на стыку Белай і Чорнай Русі, Наднёманьня, Палесься, Налібоцкай пушчы, „у ціхай вадзе" абывацельшчыны і мяшчанства, задаўленага, прыціснутага і панам, і падпанкамі, і царскім урадніка м і чыноўнікам, беларускага селяніна ўзмацоўваў ён свае „першыя крокі", выходзіў „на прасторы жыцьця".

Уважліва да ўсяго прыглядаючыся, Кастусь Міцкевіч хутка перапрануўся ў вопратку Якуба Коласа, простымі словамі, але сакавітымі, з галавы ня выходзячымі вобразамі, плакаўся на немагчымае жыцьцё, прызываў да лепшае, яму самому ня досыць выразнае, будучыні. Будучыня роднае яму, хоць і „невясёлае старонкі", але мілай яму Беларусі, з яе срэбраводным, хуткабежным Нёмнам—то кармільцам, то магільшчыкам,—з нараджонымі ім песьнямі, забабонамі („Нёмнаў дар").

Ня мінуў ён і пушчы. Пад пашпартам Тараса Гушчы ён яе далёка аб'езьдзіў, яе балоты аблазіў, яе сказы падслухаў. Бо як пісаў калісь-то аб Гётэ Баратынскі:

„С природой одною он жизнью дышал,
Ручья разумел лепетанье,
И говор древесных листов понимал,
И чувствовал трав прозябанье.
Была ему звездная книга дана,
И с ним говорила речная волна".

Толькі Тургеняў („Поездка в Полесье"), Караленка („Лес шумит"), ды „Дзед Завала" трохі прыадкрылі нам да Тараса Гушчы харастео і бяскрайныя прасторы векавых бароў. Але ніводзін з іх не раскрылі нам „душы" паляшука, яго маруднае працы, рэдкія радасьці.

## Летапісец дзён мінулых...

Што-б і калі-б ня пісаў Якуб Колас, усё гэта ён у свой час бачыў, перажываў, або чуў ад добрага знаёмага!

Мне здаецца, што яму-б надта трудна было напісаць нешта абстрактнае, як „Месс Менд", напісаць што-небудзь з незнаёмых падзей, як „Шанхайскі шоук" Дудара, адбіць у сваіх творах далёкі яму рытм гораду, джаз банда (як у Александровіча).

І «Новая Зямля», і „Сымон Музыка", і „У палескай глушы" і „У глыбі Палесься"—усё сваё роднае, перажытае. Вось чаму ён наўрад калі зможа даць нешта падобнае да «Босыя на вогнішчы» Чарота. Вось чаму яго Сьцяпан Карага выглядае менш яскрава, чым чырвонаармейцы ў Зарэцкага. Вось чаму разважаньні аб самагубстве ў „Палескай глушы" так схалястычны (а яны, па думцы аўтара, павінны былі больш за ўсё іншае захапляць чытача аповесьці).

— Бо з белымі Колас ніколі ня біўся.

— Бо сам Колас аб самагубстве ніколі ня марыў...

## Старое віно з гадамі мацнее

І дурань той, хто п'е маладое віно. А вопытны пачакае, каб віно добра ўмацавалася. „Таксама і з літаратурай“—разважае Колас.

Падзеі сёняшняга і ўчарашняга дню можна апісаць, як належыць быць, толькі ў тым разе, калі ад іх жыцьця няма (як няма сёньня жыцьця дацэнту Якубу ад «колектыву пана Тарбэцкага“).

Колас супроць фотографій:

„Старое“ ўжо ня зьменіш, старое лягчэй успомніць, чым адбіць рознастайнае быстрабягучае сучаснае жыцьцё...

Вось чаму ад „палескай глушы“ Колас пакуль што не дашоў да сучасных падзей, хоць гэта ён нам і абяцаў. Ён дойдзе да іх пазьней, калі сучасныя дні ўжо стануць гісторыяй. Але адаб'е іх у сваіх творах і як добры мастак і як праўдзівы летапісец, як эпічна адбіў ён свае маладыя гады ў „Новай Зямлі“...

Не чакайце-ж ад Коласа сеньня ні яскравых малюнкаў Федзіна («Города и годы»), ні Блокаўскіх „12“, ні „Цемента“ Гладкова. Не чакайце ўсяго гэтага ад яго сёньня—зарана чакаеце.

Не перашкаджайце-ж Коласу!

## Сьляды жыцьця і працы Коласа

Якуб. Колас досыць знаём, як: драматург, лірык, эпік, прозаік, проф. працаўнік, вучоны пэдагог (Мэтодыка роднае мовы).

20 гадоў ён працаваў.

20 вучоных аб ім пісалі свае досьледы.

Многа поэтаў прысьвяцілі яму свае допісы.

Побач з Коласам вырасьлі маладыя пісьменьнікі. Адзін з іх нават запазычыў яго прозьвішча: Каласок.

Разам з тым Колас—настаўнік маладых пакаленьняў (Жылуновіч).

Бо маладое пакаленьне яго надта любіць (проф. Піотуховіч).

## Кожны сваё ў яго творчасьці знаходзіў

**Проф. Ігнатоўскі:** Коласу блізка народная пакута (Вісьне скарга ўздож Нёмну, Беларусі сына)
Колас (у „Песьнях жальбы“) протэставаў супроць рэакцыі.
Колас заклікаў да барацьбы. Колас упэўнены ў лепшай будучыні, упэўнены, што родная ёй яго старонка ачуняе.

**Акадэмік Карскі** прызначае яму адно з першых месц у беларускай літаратуры.

**Жылуновіч** спыняецца на мілагучнасьці, прастаце, шчырасьці яго твораў, падкрэсьлівае, што Колас закаханы ў сваю краіну, адданы цалком.

**Проф. Пічэта:** Колас ня толькі поэта, але і выдатны грамадзкі дзеяч, організатар першага настаўніцкага саюзу ў 1906 годзе.

**Язэп Лёсік:** Наш гэні, беларускі клясык, які „верна слугаваў сваёй айчыне пяром, абмочаным у сьлёзах смутку і жальбы“.

**Проф. Піотуховіч:** вялікі нацыянальны поэта, мастацка выяўляе псыхіку беларуса з яго лірызмам і задуменнасьцю, мастацка апісвае прыроду, сіроцтво душы, у яго вялікая чуласьць да хараства, пяшчотнасьць душы, дабрадушныя кпіны. Наогул творчасьць Коласа—люстра нацыянальнай душы.

**П. Любецкі** спыняецца на: плястычнасьці вобразаў, гумары, гармонічнай композіцыі цэлага.

**Чаржынскі** знаходзіць, што і „ў дзённарэальных колерах асьвятляе Колас усё, што дзеіцца на зямлі“.

**Гарэцкі** ставіць Коласа ў беларускай прозе на першым месцы.

**Проф. Замоцін** залічае Коласа ў лік найвялікшых сусьветных эпікаў, раўняе яго «Новую зямлю» з Гомэраўскай Адысэяй, „Панам Тадэўшам“ Міцкевіча, «Гайаватай» Лонгфэло.

Кожны з гэтых крыткаў праў, бо кожны адзначыў тое, што яму было відней, было больш зразумела. Але ніводзін з іх ня даў адказу на пытаньне

## Ці пашоў Я. Колас разам з Кастрычнікам?

Першыя пасьля кастрычнікавыя творы Коласа прымушаюць нас адзначыць тое, што ідэі Кастрычніка з першых дзён існаваньня Савецкае ўлады альбо зусім не адбівалася ў творах Коласа, альбо не належным чынам адбіваліся. Прыклады:

У часопісі Наркамасьветы „Зорка“ Колас друкуе ідэолёгічна варожыя нам казкі (напр. „Сьвятая нядзелька“).

У «Водгульле» ён скардзіцца, што ў нас

„Кавалі другія,
А ланцуг той самы.
Песьні ўсё старыя
Неаджытай гамы“.

Яго **„Сымон Музыка“** адбівае ў той час ярка-рэлігійныя настроі самога аўтара.

Рыская згода выклікае ў заўсёды ціхага Коласа вялікае абурэньне:

Нас падзялілі—хто?—чужаніцы
Цёмных дарог макляры.
К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!
— Нашы там гоні, бары...

Бо Колас доўга ня хоча ці ня можа зразумець, што савецкая ўлада не па добрай ахвоце прымушана была падпісаць рыскую згоду..

Ня дзіва, што і пазьней ён зьмяшчае ў 2 нумары „Маладняка“ казку, „што яны страцілі“, якая адбівае гэтыя самыя настроі, хаджэньне вобмацкам па шляху Кастрычніка...

Гэта тым больш дзіва, што Колас быў актыўным рэволюцыянэрам. Бо ў 1905 г. ён, як вясковы настаўнік хутка зразумеў, што ён ні то пан, ні то мужык“ і пашоў з мужыком (глядзі ўспаміны К. Міцкевіча ў «Асьвеце»).

Што ў 1905 6 г. ён прымаў удзел.

І ў „бунце“ і ў „забастоўшчыках“.

Але гэты „бунт“ разьлічваў больш на панскую ласку, чым на паўстаньне сялян.

Нават самі „забастоўшчыкі“ дакладна ня ведалі, да чаго іх можа давесьці зьезд.

Калі адзін з іх, сам Колас, пападае ў царскі вастрог, дык вастрожныя муры амаль прыдушылі ў ім думкі аб рэволюцыі, у яго „ценях прошлага“ (Вестн. Наркомпроса за 1922 г.) амаль ня відаць надзеі на лепшае...

## Жывы жыцьцём сучаснага

З гэтым адрывам Коласа ад сучаснасьці не маглі згадзіцца многія. Але Колас на ўсё адказваў, што ён не фотограф сучаснасьці. Супроць гэтага абурыўся і Міхась Грамыка, які ў сваім вершы „Сямімільёнымі крокамі“ 4 гады назад заклікаў усіх пісьменьнікаў бліжэй прыглядзецца да сучаснай Беларусі, прыняць шчыры ўдзел у яе адбудаваньні:

О, Купала, мой родны Купала!
Пракукуй, пракукуй ты пра нас,
Як зязюлька табе кукавала,
Калі маці калыску качала,—
Пракукуй пра цікавы наш час!
О, мой Колас, мой ціхі Якуба!
Я ў куток прытулюсь, прытулюсь
І чакаць буду новага шлюбу,
Што з'яднае атрамант Якуба
І працоўных зямлю-Беларусь! і г. д.

І ціхі Якуб патроху пачаў вылазіць з «Палескае глушы», настрой сучаснага уносіць у сваю „Новую зямлю“, крок за крокам адыходзіў „праз рубяжы“ ад „ціхай вады“.

Пад уплывам марксыцкае крытыкі Я. Колас пераапрацаваў свайго „Сымона Музыку“, зьмяніў яго канец, рашуча скінуў з Сымона раней аблытаўшую яго рэлігійную павуціну. Больш таго, Колас перашоў у шэрагі актыўных бязбожнікаў, мастацкі пачаў выступаць на барацьбу з цемрай (глядзі: Сцэна з «прычасьцем» у „Пал. глушы“, поэму „Як поп зрабіўся звіятарм“, аповесьць „На парозе жыцьця“ і інш.

Але старое моцна цягнула да сябе Коласа. Падобна свайму „Прокурору“, не адразу пераступіў ён „праз рубяжы“, ад „гнілога балота“—„на прасторы жыцьця“ Савецкай Беларусі.

## Колас больш за ўсё любіць простую мову

Быў у Коласа час, калі найменшая крытыка тэхнікі яго твораў нэрвавала яго.

Быў час, калі ў „ціхага Якуба“ былі вялікія непаразуменьні з маладымі пісьменьнікамі.

Быў час, калі маладыя даймалі Коласа, жартавалі над тэхнікай яго асобных твораў.

У сваіх жартаўлівых фэльетонах Колас ня раз і ня два, а шмат разоў паказаў, што тэхніка „маладых“ яму пад сілу, але для сваіх твораў ён лічыць яе непатрэбнай.

Ня дзіва: Коласа мала цікавіць джаз бандаўскі рытм гораду і наўрад ці калі адаб'е ён магутную дынаміку фабрыкі, заводу ў сваіх творах;

З імі ён толькі цяпер азнаёміўся.

Затое—родная „лявоніха“, „мяцелі-

ца“, беларуская песьня знойдзе добрае „водгульле“ ў яго творах.

Затое—яго матка ў нядзелю так смачна падсмажвае аладкі, што жывот сам пачынае прасіць верашчакі.

Затое—ён адбіў жыцьцё селяніна ад нараджэньня да сьмерці ня горш, чым Шылер у „Ліцьцё звана“, Пушкін у „Евгений Онегин“, чым „Калевала“, „Адысэя“.

Разам з тым мова яго ня толькі стыльная, але й музычная. З Шубэртам раўняе яго беларускі музыка Дрэйзін.—Я ня ведаю, ці гэта так, бо я не музыка. Але я добра ведаю, што ў Коласа:

Вецер ўлетку пяе, у восень—жалобна плача, лес сьмяецца і рыдае.

У кожнай пары году ён умее знайсьці яе добрыя бакі. І, зачарованы музычнасьцю, як тое дзіцянё, ня ведаеш:

Якая пара году—лепшая?

А яго „Сымон Музыка“? Гэта-ж музыка аб музыцы!

Праз музыку можна выклікаць у чалавека патрэбнае пачуцьцё. Праз песьню —заклікаць да барацьбы за лепшае будучае:

— Волю-ж песьням і разгону!

Аж сумна робіцца на душы, калі чытаеш у Коласа (Казка „Рак вусач“) аб тым, як мучаецца на зямлі жыта.

Каліва ржаное,
Сьпелае, буйное
Стала над вадою
І сказала: „Рача!
Скрыўджан ты, ня йнача,
Нейкаю бядою.

Але ты паслухай, дружа:
Ой, па сьвеце ходзіць сьцюжа!
Ой, халодзіць яна дужа!

Ветрам дыша, сьнегам сьцеле,
Чуць той дух трывае ў целе.

Надыходзіць старасьць-восень,
З воч зьнікае неба просінь,
Віснуць ніці з хмарак-кросен,

Ой, выносяць мяне ў поле,
Рассыпаюць ды на ролі,

Ой, людзкія тыя жменькі,
З саламянай тэй сявенькі,
У халодны дол, пусьценькі.

Усё чыста з поля зьнята,
Там адны мае зярнята.

А той вецер дзікім сьвістам
Дзьме на полі, полі чыстым,
Усьцілае жоўтым лістам

Мае шоўкі, мае руні,
Ды халодных хмар насуне.

Золкасьць, зыркасьць і плюхота,
Журба, смутак і тускнота,
Безьлюдзь, жудзь і адзінота.

Скубуць мае руні-шоўкі
І авечкі і кароўкі,

Бо няма ім больш спажывы,
Бо расьлінкі ўсе ня жывы,
Бо сабраны травы, нівы.

О там сівер чмыхне злосна—
Ой, як страшна стане млосна!

Ткуць марозы кужаль белы,
Засьцілаюць ім сьвет цэлы,
Убіраюць дол зьмяртвелы.

Мае шоўкі, мае руні
Скрышыць злы мароз-дзядуня.

Пад абрусам тым кужэльным,
Пад тым холадам пякельным
Я ляжу, сплю сном сьмяртельным.

Ды надыдзе зноў вясенька,
Маладзічка весяленька.

Шумным сьпевам пройдуць воды,
Паскідаюць з рэчак лёды,
Зноў павее дух маподы.

Мае шоўкі, мае руні
Аднавіць вясна красуня

Як зязюлька-ж крыкне ў гаю,
Я на сонцы заіграю,
Я пучочкі выганяю.
Вецер бегам нясупынным
Гоніць хвалі срэбрам плынным,

Шоўкам сьцеле на загоны,
А я толькі б'ю паклоны
Ва ўсе чысьценька староны—

Ветру, сонцу і зямельцы,
На мяжы траве-кудзельцы.

Ой, надыдзе-ж тое лета!
Жоўтым шоўкам я адзета,
І тут песьня мая сьпета!

Ідуць жнейкі маладзічкі
І дзяўчаткі-чараўнічкі,

Нясуць жнейкі серп крывенькі,
Зрэжуць колас мой буйненькі.
Пад звон песьні галасьненькі:

„Пара зямлю адмыкаці,
Пара росу выпускаці“.

Як мост, зьлягу я на просьце,
Вязуць з поля, ды ня ў госьці—
Паб'юць цэпам мае косьці.

Мае зерняткі пасушаць.
Камянямі іх падушаць!

Ой, мае-ж вы, шоўкі-ручы!
Ой, пабілі-ж мяне ў клуні!
Пакрышылі, памалолі,
Не далі мне жыць на волі.

А ў тэй дзежачцы дубовай
З жоўтай клёпачкай альховай
Расчыняюць хлябок новы.

Расчыняюць на вадзіцы
З мае беленькай мучыцы.

Мяне ў дзежцы месяць-месяць,
Перавернуць разоў дзесяць,
Ды настольнічкам завесяць.

А печ паляць да чырвона,
Гляджу ў страсе я зьдзіўлёна,

Ой, ды чым я вінавата?
Шугне ў печ мяне лапата,
Дзе агнём усё праняга.
Я ў агні ды абамлею,
Пажаўцею, учарнею.

І, вось, толькі як вадзіцай,
Той халодненькай жывіцай,
Мяне ўмые маладзіцца,

Тады сьвет я і пабачу...
Каму-ж горай з нас, мой рача?"
І сказаў тут рак вусач:
„Грамада! ты мне прабач.
Мая журба ў прах пабіга—
Зваявала мяне жыга!
І ад гэтае пары
Прападай, мой сум стары!
Прападзі наша бяда!
Няхай жыве грамада!"

## Колас вышаў—„На прасторы жыцьця"

Але-ж Колас, як адзначыў Гарэцкі,—найвялікшы ў прозе. Доўгі час яго проза нашых дзён займалася адбіткам жыцьця старых, дзяцей.

Нават у яго „Казках жыцьця" менш грамадзкіх мотываў, менш жыцьця, менш яскравасьці, чым, напрыклад, у „Сказках жизни" альбо „Записках проходящего" М. Горкага.

Але—што прашло, тое ня вернецца.

У апошнія гады ў творах Коласа зазьвінелі: колектыў, грамада.

Асабліва цікавы: Казка „Рак-вусач" і аповесьць „На парозе жыцьця". І тут і там Колас мастацка. адзначае, сілу грамады:

**У грамады**
**— моц ня мала**
**дай ёй разгарэцца.**

Што супроць грамады ня зможа нічога зрабіць ня толькі рак-вусач, але нават і поп Ціт („За парогам жыцьця"). У вялікі фэст вёска кончыла рыцьцё канала, с п у с ь ц і л і вады з „гнілога балота" ў раку. Замест капліцы сялянства згрудзілась у канала. „З шумам хлынула вада ў канал і пабегла далей і далей, нясучы з сабою пясок, кусочкі драва, траву. Уздоўж каналу стаяў пасьвяточнаму ўбраны народ, моўчкі слухаючы музыку вады. А з-пад „сьвятога калодзежа" далятаў, як-бы з разьбітага чыгуна, нудны, гнусавы звон, але з за шуму вады ў канале яго бадай што і ня чуваць было".

Гэтай прыгожай „страхой" на 20-годнім сваіх творах Колас канчаткова сьвечыць, што ён раз назаўсёды парваў з „гнілым балотам" мінулага, што ён вышаў на прасторы жыцьця Савецкай краіны, будуючы моцны падмурак новага жыцьця пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі.

Бо толькі Савецкая ўлада і комуністычная партыя,—як адзначыў Колас у аднэй з сваіх апошніх заяў,—можа аднавіць працоўную Беларусь.

Хай жа звоняць сабе пахіленыя і трэснуўшыя званы старога. Толькі старое можа да іх прыслухоўвацца.

Якуб Колас нашых дзён да іх не прыслухоўваецца. Яго творы ізноў заклікаюць да барацьбы за лепшае жыцьцё пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, сьпяваюць надгробныя песьні таму, што ніколі ня вернецца.

А. Бабарэка

# Коласаўская праўда жыцьця

Вялікі поэта-мастак размаўляе з людзьмі ня звычайнаю моваю, якою заззвычай карыстаюцца людзі ў сваім штодзённым абыходку, а моваю мастацкіх твораў, моваю фактаў мастацкай каштоўнасьці. Ён глядзіць на сьвет і дзейнічае ў ім праз мастацкі створаныя вобразы і жыцьця, і людзей, і прыроды... Мастацкасьцю гэтых вобразаў вызначаюцца і ўсякія іншыя значэньні твораў, і чым больш гэтых значэньняў, тым каштоўней самы твор.

Поэта ці пісьменьнік-мастак, каб выказаць тыя ці іншыя патрэбы жыцьця, каб усенародна выявіць пэўныя жыцьцёвыя задачы, каб выразіць сваё адчуваньне сьвету, апавядае людзям або пра якую-небудзь гісторыю ці здарэньне ў жыцьці, або выказвае свае пачуцьці і настроі праз адпаведныя ім вобразы і г. д. Пры гэтым поэта можа браць для сваіх мастацкіх вобразаў праявы жыцьця ў тым выглядзе, у якім яны адбыліся ці адбываюцца ў самой рэчаіснасьці, або можа прыпадобіць да жыцьця выдуманыя ім здарэньні ці гісторыі, або казаць выдуманыя зьявы бяз іх адпаведнасьці сапраўднасьці. Гэта залежыць, з аднаго боку, ад творчай організацыі самога пісьменьніка, ад яго здольнасьцяй, а з другога боку, — ад тых соцыяльных умоваў і акалічнасьцяй, у якіх даводзіцца поэту тварыць. Але важна тут перад усім тое, што поэта-мастак гаворыць да сьвету так, каб гэты сьвет адчуў сваім нугром тую праўду жыцьця, якую пазнаў сваёю творчаю істотаю сам поэта і якая ня ўсякім адчуваецца ў клопатах і будзёнщчыне штодзённага жыцьця. І вялікі той поэта ці пісьменьнік, які кажа сьвету гэту праўду жыцьця і кажа так, што яна даходзіць да сэрца людзей, да іх сьвядомасьці і робіць рэволюцыю ў іх разуменьні сьвету.

Якуб Колас апавядае пра сьвет і жыцьцё такімі фактамі, як жыцьцё гісторыя Сымона Музыкі, Міхала і Антося з „Новай зямлі“, Лабановіча з „Палескай глушы“ і інш. Гэтыя факты прызнаны поэтаю за мастацкі каштоўныя. Поэта адчуў іх прыгожасьць і красу, бо яны захаплялі яго сабою, акрылялі яго радасьцю любаваньня і ўцехі, давалі магчымасьць забыцца на штодзённы назойны клопат і шэрасьць, будзілі і ажыўлялі яго творчую думку, клікалі яго ў сьвет прыгожага і шчаснага жыцьця. Праз іх поэта глядзіць на сьвет, праз іх ён размаўляе з гэтым сьветам. Яны-нібы расчыненыя вокны вялікай і прасторнай, але адначасна і душнай і цеснай хаты, з якой хочацца вырвацца, каб вальней уздыхнуць. І праз гэтыя вокны відзён інакшы, прыгажэйшы сьвет, сьвет шырокі і разам далёкі і блізкі, які невядомаю сілаю вабіць чалавека на свае ўлоньні. І бачыць поэта гэты сьвет і кажа людзям сваім, што жыцьцё ў ім і рознастайна, і шматвобразна, і шматфарбна. Усе постаці гэтага сьвету прасякнуты адзіным імкненьнем, імкненьнем да сьветлага, прыгожага, праўдзіва - шчаснага, хоць уяўленьні аб гэтым у кожнай постаці сваеасаблівыя і часта супярэчныя між сабою.

Шмат дарог расходзіцца, шмат дарог, што ніколі ня сходзяцца. Чаму-ж супярэчнасьці пры адзінстве імкненьняў, пры адзінстве таго апошняга пункту на жыцьцёвым шляху, які пуцяводнай зоркай сьвеціць усім людзям? Тут ня можа быць двух адказаў. Або імкненьні людзей рознастайны па сваіх об'ектах і тады няма адзінства, а ёсьць многасьць, або імкненьне адзіна па свайму канчатковаму пункту і толькі няма адзінага разуменьня і адзінай формы выражэньня гэтага адзінства і тады супярэчнасьці плод адсутнасьці між людзьмі адзінага як-бы „стылю“, адсутнасьці разуменьня адзінства за рознастайнасьцю формаў выражэньня і выяўленьня гэтага адзінства. І Я. Колас сваімі творамі кажа, што адпавядае праўдзе другі адказ. Поэта кажа, што супярэчнасьці—гэта плод непаразуменьня, цямноты і „пячаці“, якая наложана на адвечную існасьць людзкога імкненьня рознастайнымі формамі вырашэньня гэтай існасьці і формамі азначэньня яе. Поэта выяўляе, што за тымі „словамі“, якімі людзі за свой век укрывалі адвечную існасьць імкненьня, ня відаць ужо і самога імкненьня, як адзінага пункту людзкіх жаданьняў. За „словамі“, сьвету ня відно. Гэта яны працярабілі шмат дарог і сьцежак, і самі сталі мя-

жою, што стала ўпоперак злучэньню ўсіх дарог у адзіны прасторны шлях. Яны—самі ўжо дарогі, па якіх блудзяць і вязнуць людзі, і якіх нельга перайсьці чалавеку за свой век: такія яны ўжо вялікія і доўгія! Аб гэтым кажуць поэту яго адчуваньні, яго пачуцьці, яго чуласьць, яго інтуіцыя. Такое разуменьне жыцьця, вядома, мае свае крыніцы пахаджэньня і можа тлумачыцца пэўнымі соцыяльнымі фактарамі, што зрабілі ўплыў на яго фармаваньне. Але гэтым-жа разуменьнем можа тлумачыцца і тое, чаму Я. Колас - ня верыць «словам», чаму ня вельмі клапоціцца аб іх знадворнай прыгожасьці, чаму часта няўважна адносіцца да іх нацыянальнага аблічча і іх формальнага злучэньня, мэтрычнага гучаньня і г. д. Быць можа ў гэтым разгадка і таго, чаму поэта ўсюды на першы плян ставіць душу і яе мову лічыць за адзіную, што здольна казаць праўду, што здольна праўдзіва выявіць існасьць сьвету, адпаведнаю рэчаіснасьці. Толькі душа, а ня яе надворны воблік, той праўдзівы пасрэднік між людзьмі, праз які можа адбывацца ўзаемнае разуменьне між людзьмі і праз які магчыма зьнішчэньне супярэчнасьцяй жыцьця.

У вялікім процесе зьняцьця працоўнай Беларусі з крыжа гісторыі ўшэсьця яе творчага духу на ўзвышша ўсясьветнага, у цеснай лучнасьці красаваньня працоўных. Якуб Колас сваёю творчасьцю сказаў сьвету новую праўду аб двуіснасьці сьвету і жыцьця ў яго рэчаісным выяўленьні і выражэньні. Гэтым самым Я. Колас становіцца ў шэраг сусьветных вялікіх поэтаў-мастакоў, дары якіх ніколі не забываюцца сьветам і вечна жывуць у сэрцы народаў. Праз творчыя дары Я. Коласа „дух сусьвету з духам лучыцца зямлі“ і Беларусь з „матэры духу“ становіцца „духам матэры“ на растаньні вялікіх крыжавых дарог, што лічаць Усход з Заходам і поўдзень з поўначчу.

А Сянькевіч

# Да творчасьці Якуба Коласа

Адным у найбольш цікавых адзнак творчасьці Коласа зьяўляецца аўтобіографічнасьць амаль што ўсіх твораў і персанажаў, якіх выводзіць наш вялікі пясьняр. Выключэньне робіць толькі Сымон Музыка, у якім персоніфіцыруецца ўвесь беларускі народ. Возьмем, напрыклад, „Новую Зямлю“. Тут усе выведзеныя тыпы ня выдуманы—тут і сам поэта-юнак, і яго бацька Міхась і дзядзька Антось і браты і сяляне ваколічных вёсак—усе яны жывыя людзі. Тое-ж самае мы назіраем у другіх капітальных творах „У палескай глушы“ і „Глыбі Палесься“.

Але поэта ня проста сьпісвае жывых людзей, гэта ня ёсьць портрэтызацыя. Беручы за об'ект жывую асобу, поэта тыповыя асаблівасьці гэтае асобы мастацкі пашырае, узводзіць у тып і перад вамі ўстаюць знаёмыя фігуры беларускіх сялян Хадыкі, дзеда Паўла, Антося і інш.

Трэцяе, што зьяўляецца асаблівасьцю Коласа гэта сугучнасьць струн яго лірыў барацьбе працоўных. Сам удзельнік грамадзкай барацьбы ён ня проста апісвае барацьбу прыгнечаных з прыгнетацелямі—тут яго струны зьвіняць гневам і помстай, поэта ня толькі дае нам песьню жальбы яна зьяўляецца разам і песьняю змаганьня

Апошняе, што я хачу адзначыць, гэта неразуменьне крытыкаю імкненьня Міхала (у «Новай Зямлі») да ўласнага кавалачку зямлі.

Некаторыя проста абыходзяць гэтае пытаньне, некаторыя хочуць нібы апраўдаць поэту (і Міхала) Я лічу найбольш вялікаю заслугаю поэты, тое, што ён намаляваў селяніна такім якім ён быў і якім ён покуль што застаецца. Каб мы вывучалі быт і псыхолёгію селяніна па творах Я. Коласа, то можа не зрабілі многіх памылак у нашым падыходзе да яго.

Псыхолёгія прыватнага ўласьніка, які хоча мець свой вугал, свой кусочак зямлі—вось тое, што зьяўляецца тыповым для ўсіх, нават самых бяднейшых, сялян.

Другая справа, ці ён знойдзе „Новую зямлю“ ў гэтым уласным кусочку.

Міхал гэтае зямлі не знашоў. Ён дае наказ брату Антосю шукаць гэтую новую зямлю.

І селянін, а разам з ім і поэта, знаходзяць гэтую зямлю пасьля кастрычнікавае рэволюцыі, знаходзяць яе „на прасторах жыцьця“, „у шырокіх размахах грамадзкай работы“, знаходзяць яе ў колектыўнай працы вёскі па асушэньні балота.

# Якубу Коласу

*у дзень 20-годзьдзя творчасьці*

Ты Колас сьпелы з нашай Нівы
З асьцём карыснага насеньня
З карэньнем ўсмоктанае глебы,
З сьцяблом высокім, вузлаватым.

Ты нарадзіўся у час імглівы
Пад сьпевы смутку і цярпеньня,
Ды увабраў у сябе патрэбы
Братоў сваіх з пахілай хаты...

Падзячны сын працоўнай гушчы
Ты гушчай быў вясковых думак.
Як пушчы нашыя таемных,
Глыбокіх, як віры на Нёмне...

На крыўду ты вачэй ня плюшчыў,
А праўду нёс у свой творчы клунак
І ад старонак Гушчы, кемных
Ідзе нейкі цёплы дух пазёмны...

Сачыла пільна тваё вока
За самай дробнаю драбніцай,—
За тое людзі з тваіх твораў
Нясуць па жылах кроў жывую,

За тое ў кут глухі, далёкі
На самадзельную паліцу
Пасталі слоў тваіх узоры
Каб плынь аздобіць бытавую.

У твае пясьнярскія абыймы
Ўвайшла журба тваіх палёў,
І хмарак нашых краявыймы,
І гул працуючых вульлёў.

І першы гром, і расставаньне,
І песьня—гора батрака,
І адзінотнае стагнаньне,
І жарцік дзядзькі—рыбака.

Васьпеў ты ноч пряд навальніцай
Яшчэ задоўга да яе.
І у песьні месяц „круглаліцы“
Як сьцяг паўстаньня „чырванеў“.

Ты паказаў на уласнай працы,
Што зможа даць бядняцкі сын,
Так. Так. Ты колас з нівы нашай
Пясьняр Народны ў тым краі,

Дзе песьня працы гарапашнай
Узьняла моцныя раі,
Дзе песьня вечна іграе ролю,
Гарыць, як вогнішчаў стажар,
Ды асьвятляе шлях і долю,—
Ты з двох адзін у нас пясьняр!

**М. І. Грамыка.**

# Музыка

*Прысьвячаецца Я. Коласу*

У бязбрэжніцах лёгкакрылых далячынь шлюбавалася неба з зямлёй.

Глыбокія вочы Музыкі, сына сінягрывага Нёмну, пільна ўглядаліся туды... Даль песьціла ў сваіх крышталях усе думы яго сэрца, усе лятуценьні яго вясны.

Бязбрэжніцы далі то падсоўваліся да Музыкі блізка-блізка, да самых грудзей, нібы чароўныя здані ўва сьне. То адсоўваліся ад яго далёка далёка, і ён бачыў толькі водблескі нейкіх ільдзяных заслонаў.

А частка Бязбрэжніцы вопраткі свае мянялі: то апранаалі сарочкі з бялёнага кужалю, то атулялі сябе зялёна-сівымі вэлюмамі дыму-туману, то забаўляліся вялізнымі акулярамі з сіняга шкла. Калі-нікалі яны ўспыхвалі, нібы ад сораму, макава-палыхаючымі зарніцамі. А бывала, вятрыцы ў ваўняных сьвітках шэрых воблакаў гойдаліся непрытомныя над Бязбрэжніцамі, кучаравілі зялёныя чупрыны бароў, качаліся па мяккай шэрсьці гучных палёў і, абмакаючы ў Нёмне свае сіва-блакітныя бароды, зноў вярталіся ў бірузовыя пустэчы вольных прастораў.

Музыка, сын сінягрывага Нёмну, пазіраў на багатабаравыя далячыні, не адымаючы пальцаў ад струн Скрыпкі-вяшчуньні. Струны былі ценькія, як павуціна; чулыя, бы крыльлі пчолак, кволыя, як валасы малалеткі.

Струны, дрыжучы матылькамі над жывым сэрцам Скрыпкі-вяшчуньні, то зьвінелі звонам кос на лузе, то стагналі нібы галінкі пад ветрам, то шапацелі бы кала-

сы на жытнім полі, то пераліваліся срэбрам і журчэлі крынічкай падузгорачнай, то мільгаліся ціхімі тонамі, бы цені ластавак на адшліфаваным возеры, а то грымелі з пагрозай буры, з бунтарскім гневам у тысячу галасоў.

Струны, нібы люстэрка, адбівалі ў сабе думы-мары Музыкі. Яго думы-мары былі то пяшчотна-чулыя, бы ўсход маладзіка ў сіняве летняй поўначы, то таямнічыя, як пушча пад сталетняй дрымою, то глыбока плынныя бы Нёман у час вясновай паводкі, а то бурна-імпэтныя, як барацьба мазалістага люду за лепшы лёс.

Казачнай сілай струны ператварaлі гукі ў колеры, злотасрэбныя зыкі—у яркія вобразы Роднага Краю. Гукі малявалі жывых істот: ад маленькай былінкі да высачэзнага дуба, ад кволага матылька да гутарлівых дзядзькоў прыгожага лясіста-вазёрнага Палесься.

Струны песьняславілі ўсё адвечнае хараство Зямлі Беларускай. Людзі ня толькі слухам слухалі, але і вачыма бачылі тыя вобразы—малюнкі, якія струны расьцілалі перад імі на шырокіх саматканах Творчасьці, тыя орнамэнты-дэсэны, якія ткалі з шоўкавых нітак гукаў пальцы славутнага Музыкі, сына сінягрывага Нёмну.

У сэрцы Скрыпкі праменілася многаструннае хараство нашай зямлі. Яно хавала ў сабе сонечна-месячныя скарбы старасьвецкай і маладой Белай Русі: сумныя трэлі хлапцоўскай жалейкі, бяроставыя гукі пастырскай трубы, гульлівыя водгукі дуды-весялухі, гучныя сьмехазыкі сталёваструнных цымбал, працяглыя стогны ціхагрaйнай леры, русальныя сьпевы сінявокіх дзяўчат і ўсе радасьці-смуткі ратая-волата.

Музыка, сын сінягрывага Нёмну, вандраваў па роднай зямлі ад поля да поля і сеяў вакол тыя «песьні жальбы», якія вякамі жылі ў грудзёх ратаёў.

— Гэта-ж ён нашыя простыя песьні грае! А скрыпка якраз чалавечым галасам гаворa! Слухайце як яна плача!

Так гаварылі людзі і пачалі зьбірацца грамадамі вакол Музыкі, непакоячыся, нібы бор пад ветрам. Людзі лавілі, як жабракі дукаты, кожны водгук струны, кожны подых пявучай скрыпкі.

— Небясьпечны Музыка,— казалі царскія слугі,—ён усіх мужыкоў збунтуе!

І царскія слугі пасадзілі Музыку ў цямніцу.

— Жыве народ — будзе жыць і яго песьня аб волі. А калі жыве песьня аб волі, дык і воля закрасуе на зямлі! — цешыў сябе Музыка, паглядаючы праз жалезныя краты ў блакітную плямінку неба, тулячы да сваіх грудзей скрыпку - вяшчуньню.

Адарваны ад гаротных братоў, ад дзіўнаграйных абшараў замілаваных даляў, Музыка бачыў у думках сваіх „Родныя зьявы"—малюнкі дзіцячых гадоў, бачыў жыва ўсё ад сонечнай усьмешкі вясковай маладухі да апошняй драбнюткай пясчынкі на прызьбе і пачынаў граць..

* * *

Брылі-блыталіся гады. То купальскімі русалкамі купаліся ў мядоваросных лугох Беларусі. То валакліся марудна, як запрацаваныя быкі пад ярмом на цьвёрдым дзірване. То насіліся лёгкім ветрам, нібы чаўны на грудзёх Нёмну. То імчаліся ўдаль, як агнёвыя коні на вулканістых стромкіх гарах.

Гады мяняліся хутка. Бацам дзіцё перагістоўвала казку з каляровымі малюнкамі.

А ці ў гэтых гадох не пляліся, як вянкі з васількоў, «казкі жыцьця» нашага народу?

У гэты час Музыка ўжо вольна вандраваў па „Новай зямлі", не адзін, а з дзіцём сваёй скрыпкі—„Сымонам Музыкай". Пазіраючы ў далячыню, сын сінягрывага Нёмну ўспамінаў кожны куток „Палескай глушы." Багата была ўспамінамі юнацкіх гадоў душа Музыкі. Яны песьціліся ў яго сэрцы, насіліся пад небам яго думак, нібы жаўранкі над сьвежай ральлёй. Яны клікалі вабілі да сябе, як цень дуба ў гарачы летні поўдзень. Яны былі цікавы тым, што ўжо ніколі ня вернуцца, што могуць быць забыты людзьмі. Яны былі дарагі тым, што ў іх крыніцах купаліся першыя песьні Музыкі, што іх зямля падарыла яму скрыпку-вяшчуньню.

Вандруе Музыка „Крок за крокам", ступаючы „На рубяжы" мінулага з сучасным, граючы свае песьні „У прасторах жыцьця" будучыні.

Так грае Музыка, сын сінягрывага Нёмну, ужо дваццаць вёснаграяў, пазіраючы бадзёра ў даль.

Не васількамі быў высланы яго шлях Смутак і радасьць змаганьня чарадаваліся на ім, як дзень і ноч.

**З. Бядуля**

# Юбіляру—Якубу Коласу

І восень хіліцца на дол
сваёй пажоўклай галавою,
і песьні ў сонечную даль
плывуць нясконченым навоем.

Сьцяною белаю туман
устаў над мёрзлаю далінай
і, мабыць, слоў таму няма,
што завіліся ўспаміны.

Былі часы. Уся зямля
была адзета ў чорны іней,
Ты вышаў з песьняю на шлях
і асьвяціў пуці краіне.

Я знаю, як на сіні дол
лілася песьня ціхім сквілам,
твой кожны кованы радок
даваў надзеі, веры, сілы.

Цяпер вось дзіўна маладым
глядзець на згорбленую постаць.
Былі гады, прашлі гады,
а ты застаўся сэрцам просты.

І мне калісьці ў валасы
асмужыць час бялявы кужаль,
Звон васільковае красы—
я патану ў халодных сьцюжах.

Але ня спыніць цьвёрды шаг
поэт ў шляхох і ў раздарожжах,
хоць будзе ў роспачы душа
ад слоў ліхіх і ад прыгожых.

Бо знае ён ці на вясьне,
ці ў амарантавай прадвесьні,
што будуць расьцьвітаць ясьней,
часом засмучаныя песьні.

Уцеха будзе для мяне,
калі сплыве імжа і шума,
і будуць краскамі зьвінець
мае асмугленыя думы.

Калі ня буду маладым,
схілю пагорбленую постаць,
уцехай будзе мне тады
застацца радасным і простым.

І восень хіліцца на дол,
сваёй пажоўклай галавою,
і песьні ў сонечную даль
плывуць сузорачным навоем.

**Максім Лужанін**

Дваццаць год,
Роўна дваццаць год
Шалясьцела над краем песьня,—
Там ня раз сумавала сяло
І шумелі вятры над лесам,
Шумелі, шумелі—песьню.

Глуш ды ціш і палі зялёныя,
Толькі месяц там ды вятры. .
У тым сяле было
Дваццаць клёнаў
і бруілася срэбная крынь.
Там у маці радзіўся сын.

Ен хадзіў у кашулі простай,
Што сяляне яму надзелі:
Тады часта
Палі зарасталі
Палынамі і дзікім зельлем.
Хто тыя помніць дні,
З васільковаю скаргаю ніў?!

Але прышла ўдача
І каласы зазьвінелі—
Кожнаму стала іначай...
Ё кожнага слоў каласеньне.
Ен сьпяваў і зьвінелі клёны
Шалясьцістым зялёным звонам.

Можа скажуць інакш другія
І завіюць у карункі слоў:
З песьняю праўда век не загіне
З ёю жыло і журыла сяло.
Там, у сяле тым,
Схіліўся тын,
Там шалясьцелі калісьці жыты.

Увечары там дагараюць агні,
а раньнем румяніцца рунь

. . . . . . . .

Ціха калышуцца вобдымкі ніў
Пад каласеньне ласкавае струн.
Там і цяпер палыхае зара
І ўсе шляхі ў радзімы край.

Клёны цяпер асыпацца сталі,
Вецер у долах лісты расьсеяў.
Роднаю песьняй папросту вітаю,
Роднаю песьняй сівых аселіц.

Песьням на тое дваццаць гадоў,
Многа сьцяжынак было і сьлядоў.
Гэтых сьлядоў не засыпаць пяскамі,
Гэтых сьлядоў не завеяць лістамі.

**Сяргей Дарожны**

21-XI 26 г.

Пятро Глебка

# Ну, што сказаць?

В грозы, в бури, в житейскую стынь,
в дни потерь и когда тебе грустно,
казаться улыбчывым и простым —
самое высшее в мире искусство.

С. Есенин.

Ну, што сказаць?
Якімі словамі усьцешыць?
А можа у глыб вачэй
папросту паглядзець?—
Ні слова кволае,
ні легкая усьмешка,
ня могуць засьціць
вуснау сьлед.

Браточкі любыя!.
Браточкі дарагія!
Ці чулі вы,
як плача раньняя зара?!
І росы гадаюць,
ільсьняцца, гінуць,
а сонца выплыве,—
тады гараць, гараць...

Вось так і Беларусь:
ад краю і да краю
Сьлязьмі змачыла
зарослыя шляхі...
Казалі наскія,
што доля пакарала,
а іншыя, чужыя,
што лес такі.

Віюцца сеньня песьні,—
зьвівауся лямант;
здавалася,
што сьлезы век не счануць.
Вазеры і балоты—
мо' гэта плямы
ад сьлез былых
на пурпурах пясчаных.

Сягоньня сьлезы усе
мы пазьбіралі у наквець,
каб край балот
закрасавау, зацьвіу.
Таму і радасна
аж да усьмешкі, нават,
што росы падаюць
гарэць на жвір.

А вось ці чулі вы,
як плачуць навальніцы,
як стогне бор
і шалясьцяць лясы?
Тады маучаць
дарогі і гасьцінцы,
а хмары чорныя
выходзяць галасіць.

Тады і ен
выходзіу на дарогу,
каб вартаваць
пясчаныя палі.
Балюча раніу сэрца
крывы рогат,
што думы у песьнях
мужыцкіх запаліу.

За што-ж яго
абвінавацілі у маркоце?
Ці не за тым,
што сеньня весялосьць?
Хай песьня сумная—
а хто яе заводзіу,
а хто аддау
для песьні маладосьць?

Браточкі любыя!..
Браточкі дарагія!
Калі навалы б'юць
і крышаць берагі,
не шмат іх
адважных, каб загінуць
за песьню наскую,
за радасьць без тугі.

Дык вось затым
асьвянула усьмешка,
дык вось затым
наволі меркне зірк...
Дык што сказаць?..
Якімі словамі усьцешыць
Які вянок [illegible]
на галаву завіць?

Ня трэба слоу,
ня трэ' пахвальных одау,—
хай песьня звоніць,
водгульлем зьвініць;
за песьню гэтую
цябе працоуныя уславяць,
зьвіюць вянок
з калосься і з зарніц.

Кляшторны

# Кастрычнік

Даруй „здкураная"
Ладунам балотнай ціны,—
Вяслую човен свой з размытых бе-
рагоў
Туды,
Дзе ў касананс
Кастрычніка турбіны
Здуваюць стынь з асьнежаных палёў.
Даруй!
Сьціраюць помнікі,
Сьціраюць туманамі
На перагібе новыя вякі,
І вяжа-ў далечах
Над нашымі шляхамі
Гіст рыя ружовыя вянкі.
Ня вечна ўсё...
Вякі каменьня рушаць,
З каменьня маякі выкладваюць гады,
Але ня змыюцца
На полі Беларусі
У хвалях дзён, кастрычніка сьляды...
Дзе сыплюць мак
Над возерам пацёмкі,
Дзе дрэмле сінь у пражы туманоў,
Сівым вякам раскажуць валатоўкі
Пра вечнае змаганьне і любоў...

# Музыкі беларускай вёскі

Па фотографіі Л. У. Дашкевіча



Я. Купала

## Калека

(*Гутарка з мінулага часу*)

I

— Што з табою браце мілы?
Чаму хмуран ты няўмеру?
Дзяцюк гэткі повен сілы!
Як тут даць, здаецца, веру?
Аднэй радасьці, вясельля
Быць павінны поўны грудзі,
Ты-ж, як зьбіты, як з пахмельля...
Ну. і людзі, што за людзі?!
А мо' ёсьць на то прычына—
Усё сваю прычыну мае:
Ты дзяцюк, а вунь дзяўчына,
Во адно ўжо і ўздыхае.
Ну, ўздыхайце сабе самі,
Рад і я вам падціхаці;
Можа траплю дзе часамі
І па сэрцу табе, браце.

II

— Пачну думу ад пачатку:
Жыў я з малку ў вёсцы з краю;
Мала помню родну хатку,
А ўсё-ж міла ўспамінаю.
Быўшы дзіцем, быў рахманым,
Бацькі, маці быў пацехай,
Плач нядолі ня быў знаным,
Колькі гуляў, колькі сьмеху!
Не заводзіў нічым думак,—
Трэба ў школу—ў чым тут стала?
Сып, узяўшы кніжак клумак,
Адно жаль—знаў іх замала.
Першы год ганяў я ў поле:
Умірае бацька, маці,—
Вось і стала сьвету болей
Сіратою аднэй, браце.

III

— Ці вы знаеце, што знача
Сіратою быць на сьвеце?—
Хмарка плача, вецер плача,
Як такога дзе прымеціць.

Можа скажаце таксама:
Людзі літасьць над ім маюць;
Ня такая людзі крама,
Ў якой людзкасьць аглядаюць.
Адным цягам год за годам
Шлі цярніста, шлі крывава,
З імі моладасьць з нягодай,
Як асеньняя няслава.
Ня раз труд было заснуці;
Сьвет хацеў бы ў жменю ўзяці
І як вецьвем страсануці...
Так было мне цяжка, браце.

IV

— Як памёрлі бацькі, маці,
З хаты выгналі за браму,
Жыць прышлось доляй бадзяцкай,
Няма што, пашоў да пана.
Далі там аграцак хлеба,
Далі колькі марных грошы;
Што, здаецца, болей трэба?
Будзь слухмяны, будзь харошым!
Здасца можа—добра гэтак,
А дзе ж кут свой, а дзе воля?
Панскі дом, страва, адзетак
Душы, сэрца не здаволіць.
Ня быць выгнаным надзея
Не загосьце ў чужой хаце;
Месяц сьвеціць ды ня грэе,
Служба службаю, мой браце.

V

— Скокам-бокам, напаў з горам
Насьпеў гадзік і дваццаты,
Быў хлапцом—сказаць ня сорам!
Бач, пазвалі у салдаты.
І пашоў я—няма дуру—
Паспытаць ваеннай хаты;
І што скажаш?—прышоў з скурай,
І там людзі, і там нашы.
На муштроўку шоў у зьміру,
Вайну ўзьнялі—туды глянуў;
Праслужыў гадкоў чатыры
І вярнуўся... куды?—к пану.
Прынёс крыжык—памяць з бою,
Ды яго-ж я, о, праклядцьце!
Аплаціў аднэй рукою...
Эх, каб ім!.. Падумай браце...

VI

— Аднарукі, аднарукі!
Гэтак дома ўсе казалі,
Многа меў нуды, дакукі,
Яшчэ горай стала далей.
Што рабіці, трэба жыці,—
Стаў у двор за лясьніка я,
А служыці, дык служыці,
Мабыць доля ўжо такая.

Вось з наказу раз пашоў я
Вартаваць у лес павалы,
Ноч была, на безгалоў'е
Бура выла лес ламала.
І вось хвойка грукі і сукам
Нагу крыша, не паўстаці,
Бура глушыць енк мой гукам...
А там далей, эх, мой браце!..

VII

Што было, і сам ня помню,
Год пралежыў у бальніцы,
На сьвет вышаў, хто-ж уломню
Дасьць і хлеба і вадзіцы.
І паплёўся я з пакорай
Туды, дзе такім дарога,
Дзе адно сабрана гора,—
Ў жабракі пашоў з трывогай
Дзіўна вам, што часам з нудаў
Заглядаю ў карчомку...
Людзі, людзі! Іншым буду—
Адчапеце мне хатомку.
Вы—шчасьлівы, з доляй яснай—
І то рады пагуляці,
А я-ж, я—жабрак няшчасны ..
Эх, ня крыўдзь насьмешкай, браце.

VIII

—Глянь во з жалем—я калека,
Аднарукі, аднаногі,
Бяз прытульнасьці апека
Ацямніла ўсе дарогі.
Дум гаротных колькі, колькі!
Хто зьлічыць, апець іх можа?
Каму ўцям чужыя болькі,
Хто бядзе чужой паможа?
Быў здароў, быў дуж і молад,
Нішчым саха, сякера,
Што там значыў холад, голад,
Крэпка сіла, крэпка вера!
Дзе-ж ты, вера, дзе ты, сіла?
На каго мне наракаці?
Эй, падмігівай магіла!
Ты-ж ня злуйся, мілы браце.

IX.

—Кастыль, торба, кій жабрачы
Маім пашпартам, адзнакай,
Было кепска, ўсё-ж іначай
Над сваёй нядоляй плакаў.
Як і ўсе, і я меў сэрца,
Быў час—дзеўчынку нагледзіў;
Пасьля-ж, пасьля ў паняверцы
І дзяўчынка зьнікла недзе.
Як апаленае дрэва
Пастухамі ў полі роўным,
Адзінока хмар павеваў
Жаду век з сэрцам неспакойным.

Памру. Хіба крук над трупам
Хаўтуры будзе спраўляці,
Ды ноч гляне вокам рупным...
Эх, хоць ты успомні, браце.

X.

Глянь душой, дзе, у чым няшчасьце,
З твайго ж сьмех мне нараканьня,—
З віхраў зімніх не прапасьці,—
Рухне стужа, вясна ўстане.
У сьвет глядзі з надзеяй, дружа,—
Вера ў шчасьце не зашкодзіць;
Ня ўсім доля роўна служа,
Ня ўсіх колкай сьцежкай водзіць.
Хоць нож крыўды ўесца ў грудзі,
Хоць нуды сьляпое жала
Кроў смактаці з цябе будзе,—
Стой за праўду, стой, як скала.
Людзі... Што-ж? хто не калекам,
Аб іх можна і ня дбаці,
Будзь сам толькі чалавекам,
Будзь... Ей будзь здароў, мой браце!

XI

Мне пара ўжо забірацца...
Ох, сказаць хацеў да дому...
Мне пара ўжо з хаткі к хатцы
Хлеб ісьці зьбіраць пасвойму.
Гаварыці перад кожнай
Псальмы, пацеры, літаньні,
Абрыдаціся адважна,
Як сабака дзе прыстане.
Мо' так выжабрую недзе
Куток ціхі дажыць веку,
Мукі хтось калекі ўгледзе,
Ня дасьць згінуць чалавеку.
Прыдзе зьмена мо' на сьвеце,
Ня дасьць бедным бядаваці,
Будзем жыць і жыць хацеці.
І пець весела, мой браце.

XII

Гэтак правіў у карчомцы
Раз убогі, Куксай званы,
Мала меў чаго ў хатомцы
І быў так ня зусім п'яны
Яго слухалі цікава,
Праўды шмат ад яго чулі.
Кожны бачыў, як крывава
Можа доля справіць гулі.
З дзесяць год таму па дровы
Ехаў неяк я зімою,
Мала грэў і кажух новы,
Трос, як лістам, сівер мною.
Еду... Дзе крыж ''ля дарогі,
Штось відаць, як хто лёг спаці,
Глянуў... мёртвы Кукса ўбогі...
Так жыцьцё ён скончыў, браце.

**Максім Лужанін.**

* * *

**У Беларусі радзіўся і рос,
песьня першая аб Беларусі!
У адцьвітаньнях тужлівай пары
пад асеньняю жоўтай Зарой
я да родных палеткаў вярнуўся,
дзе гудуць і шумуюць бары
і ляцяць курлыкаючы гусі.**

**Я заўсёды папросту сьпяваў,
ў вясёлках душа расьцьвітала,
не запляміў у боязі шлях
ня схілілася ў дол галава,
толькі ў ветрана-чорнай навале
пачарнела у далях зямля
і пажоўк зеленявы дзірван,
паў туман на балотнае гала.**

**Ці з таго, расьцьвітае цяпер
над узьмежкамі сінь адвячоркам
што спаткаў не згадаўшы адкуль
дарагую такую цябе,
воддалёк ад курганаў, узгоркаў
і сьляды асачыў на пяску,**

**бо на плечы ва ўзорнай разьбе
палі косы шаўкавіста-чорныя.**

**І ня знаю ці пець, ці маўчаць,
ці прыжджэш неба радасна-сіньшага...?
Многа бачыў прыгожых дзяўчат,
толькі ты незнаёмая, іншая.
Многа дум. Маладосьць і шляхі.
Есьць шляхі. Можа ёсьць раздарожжы.
Кіну погляд у сінь, у блакіт
і ад сэрца адкіну варожасьць.**

**Ня хіліцца-ж пажоўклай калінаю
і губляць хараство над вадой,
у палёх, у лугох, у далінах
Зазіяе мая маладосьць.
Маладосьць скажа шчырае слова,
будуць далі і сіні ясьней
і у песьню закрадзецца кволасьць
аб тваёй неапетай вясьне.**

19 лістапада 26 г
Менск

Максім Рыльскі

# Восень ходзіць

(З украінскай)

Восень ходзіць, яблыкі залоціць:
Я прыехаў у нязнаны край.
— Чужаземка маладая, хто ты?
— Адгадай!

— Дай вады напіцца, чужаземка.
— У вадзе любоўныя дары.

Прывязаў каня свайго блізенька,
Стрэльбу склаў на вецьце угары.

У вочы ёй гляджу і турбаваньне
Горнецца на дне душы лісьцём,
Шчасьце йдзе на сэрцы злататканна
І ўзьнимозе хіліцца трысьцём.

Пераклаў Ю. Гаўрук.

Алесь Смык.

# На перахрэстку

Пажаўцела ўсё чыста на полі,
Вецер лісьце ўжо з дрэваў пазьмёў
Толькі ходзіць скаціна па волі
Брацьцяў мілых маіх мужыкоў.

Ўжо іржышча даўно заарана
Плуг пад страхою іржавы стаіць,
Халадней у надвор'і ўжо стала
Дробны дожджык штодзённа мжыць.

Хутка хутка мароз загуляе,
Белы сьнег скора ў нас заблішчыць,
І зіма наша матка радная
У край радзімы, да нас прыляціць.

І цяпер вось на тым перахрэстку,
Чорнай восені й пекнай зімы
Мы усіх у краіне вітаем
Мы усёй Беларусі сыны

## ВОСЕНЬ



Максім Алешнік

# Ясная ноч

Была восень.

У лесе сьцямнела рана. Класьціся пачаў змрок на мокрую траву, мох і дубовае лісьце. Мацней запахла хваёваю смалою і гні ою карою.

Сяліба лясьніка пачала здавацца густою кучаю лому, некім скінутага пад ногі старых высокіх хвояў.

Было ціха.

Гаспадары пазапрагалі коні, падабралі вяроўкі, агледзелі вазы з дзеравам і пачалі паволі выяжджаць на лясную дарогу.

Пад калёсамі трашчала ламачча, падскаквала ўгору, мокрае лісьцьце бралася за калесы і мяккая зямля з пад яго наліпала на шыны жаўтавата-шэраю жарствою.

Цяжка было коням выяжджаць на дарогу. Гаспадары плячукамі пхалі ў вазы, цмокалі і крычалі на коняй. Коні нацягвалі гужы, напіналіся і йшлі паволі...

На лясной дарозе палягчэла—тут было цьвёрда і раўней, толькі трэба было мінаць каляіны.

Вальней можна было тут ісьці каля вазоў і недалёка быў край лесу.

Хутка зьлёгку запахла конскім потам.

* * *

За лесам відней стала.

Шырока ляжала палявая дарога; тут і ральля і мясцамі незаворанае іржышча ляжала паабапал, тут весялей нейк стала.

Коні пашлі раўней.

Каля пярэдняга возу, поплеч ішлі Мікалай Юрчук і Зьмітрок Ліставы. Мікалаю Юрчуку было холадна—быў ён лёгка адзеты, у шарачковым старым каптане на кудзелях. Кудзеля ад старасьці пазьбівалася ў лямец, павылазіла патроху й павыпадала. І Мікалай глыбока засунуў кулакі рук у кішэні старых салдацкіх портак, паціскаў плячыма, стараючыся схаваць шыю ў нізенькі, настаўлены, зашмальцоны халодны каўнерык.

Зьмітрок Ліставы, адзеты ў кароткі кажушок, размахваў рукамі, без патрэбы з асалодаю цмокаў і пагукваў на коняй.

Ён выкурыў папяросу, плюнуў сабе пад ногі і панура сказаў:

Надвор'е нядобрае. Лепш-бы падмерзла; каторая пара. Бывала, мой бацька расказваў, такія зімы былі—і рана станавіліся і сьнягоў—замятала вёскі.

— То што, гэта добра?!—Адказаў Мікалай—што ты гэта.

— Яно ня добра. Гэта я к слову.

— Па мне, дык няхай бы так колькі хоча было, ня холадна.

— Гразка.

— Абы цёпла.

Ззаду падышоў Максім Міхалёў.

— Холадна змрокам зрабілася сказаў ён.

— Добра было-б дзе пагрэцца—сказаў Мікалай.

— Дзе-ж ты тут пагрэешся?

— Але, добра кажа, дзе ты тут вельмі пагрэешся?

— І і-і, дзівак ты—абазваўся Зьмітрок—захацеўшы сабаку выцяць, то кія знойдзеш. Гэта раз. Ці варт грэцца, ці не, от гэта. Можа ня варт прыпыняцца.

— А дзе ж ты прыпынішся?

— Праяжджаючы праз цагельню можна на момант забегчы да Паціеўскага, у яго павінна знайсьціся што небудзь.

— Што, ён гоніць?

— І гоніць, і цішком казённаю пачаставаць можа.

— А што вы думаеце браткі, дальбог, каб гэта на часінку заскочыў!

— Вялікі гурт вельмі, нядобра.

— Што там ня добра! Ды ўсе й ня пойдуць.

А што, толькі табе?

Коні паволі цягнулі вазы. Дарога месцамі была гразкая, цяжкая.

Ужо амаль зусім лёг вечар. Павінна была быць месячная ноч. Нейк пасьля змроку нават ясьней стала і далёка відаць былі нейкія чорныя лапіны на полі—можа гэта кусты, якія расьлі, ці хутары стаялі

* * *

Пры дарозе ў Цагельні, каля цёмнае доўгае будыніны прыпыніліся чатыры фурманкі. Рэшта паехала далей.

— Дагонім!—гукнуў усьлед Зьмітрок, прывязваючы каня да плоту.

— Пабачым—адгукнуліся сьпераду.

Насустрэч кінуўся сабака, пасьля завіляў хвастом і пачаў абнюхваць сьляды незнаёмых.

Людзі ўвашлі ў хату.

Пацієўскі, заможны гаспадар, з навыкамі гандляра, прынёс бутэльку гарэлкі, дастаў аднэкуль талерку селядцоў. Запалілі лямпу.

І сьпешна пачалі „грэцца“.

Зьмітрок наліў па чарцы.

— Ах-ч!—сказалі усе, выпіўшы.

І тыкаючы пальцамі ў талерку ловячы на відэльцы кавалкі пахучых селядцоў з ікрою, закусвалі.

Мікалай пакруціў у руках бутэльку:

— Мае мацунак.

— Нехта абазваўся:

— Цяплыня па жываце пашла.

— Ах, добра!

— Жывей стала, крапчэй чалавеку.

— Адным словам ня дурны гэта выдумаў.

— Ну, чалавек жывучы ўсе мяркуе, стараецца.

Пасьля другое чаркі весялее стала.

Не хацелася ўставаць, хацелася быць тут, моцна гаварыць, крычаць, сьпяваць. Хацелася расказаць усім аб тым, аб чым звычайна ня хочацца, ня трэба, часамі нават сараматна гаварыць.

Выпілі па трэйцяй чарцы й скончылі селядцы.

У дарогу сабраліся нейк трывожна' як-бы што рупела і непакоіла.

* * *

Но!—моцна гукнуў Зьмітрок на каня, выяжджаючы першым.

І пашоў каля аглаблі, моцна ступаючы вялікімі ботамі.

— Паганяй, паганяй хлопцы—яшчэ раз гукнуў ён, весела азірнуўшыся.

— Паганяем—крыкнулі ззаду.

Ішлі паволі, блыталіся нагамі. Кон стукалі капытамі.

Зьмітрок засьпяваў:

Ой ў полі, полі,
Карчомка стаяла.
Трай-рай-рата-тай
Карчомка стаяла.

Мікалаю здалося гэта вельмі слаўным. Ён пастараўся дагнаць Зьмітра. Падбег трохі, шморгаючы ботамі. Хацеў палажыць на хаду сваю руку на плячо Зьмітру, моцна дыхнуў і пасьлізнуўся. Раптам упаў ткнуўся нагою пад задняе калясо, узьехаўшае на дарожны камень. Калясо, саскочыўшы з каменя, усім цяжарам сырое хваіны на возе стукнула па назе і пераехала.

Яшчэ ён нават ускапіўся, пасьля зноў упаў. Упаў ад болю.

Раптам нешта страшнае зразумеў, заўжмурыў вочы і закрычаў.

Мужчыны азірнуліся, прыпынілі коні.

Вантузіліся яснаю ноччу па дарозе, з нейкім пярэпалохам, сьпешна гаварылі.

Пасьля скінулі з Мікалаевага возу дзеразз, саставалі драбіны і на салому палажылі Мікалая з пераломінаю нагой, сумнага з пабялеўшым тварам ад болю.

Рагнеда Беразінская

# Люблю

Люблю я родныя абшары,
Прасторы вольныя палёў,
Старыя помнікі—курганы
І сьпеў размашыстых вятроў.
Люблю таемны гоман лесу,
Яго начныя галасы...
Як салаўі сьмяюцца ў бэзу..
Люблю вясёлы бляск расы.
Васеньніх бур люблю я голас,
Агонь маланкі з чорных хмар...
Люблю!—у полі гнецца колас
І вее шырынёй абшар.

* * *

Шэпчуць, гамоняць паціху таполі—
Прошласьці цёмнай сыны,
Шэпчуць аб радасьці, шэпчуць аб волі
Плачуць лістамі яны.

Плач іх разносіцца, гіне далёка,
Скарга мінулага ў ім.
Сум залягае ў сэрцы глыбокі,
Штосьці здаецца сваім.

Чуюцца ў шопаце казкі былога,
Песьні нядолі бацькоў,
Суму і роспачы ў песьнях тых многа
Спадчыны прошлых вякоў.

Шэпчуць, гамоняць паціху таполі,
Прошласьці цёмнай сыны,
Шэпчуць аб радасьці, шэпчуць аб волі
Плачуць лістамі яны.

Васіль Каваль

# Шапаціць пажоўклае лісьце

Жоўтацьветам асыпала зямлю восень.

Павольна спадалі з беластанных і віхрастых бяроз-красунь лісты.

Скамечаныя, ахапкамі коцяцца яны к рэчцы, на бераг і ў даліны; а рэчка гоніць журботу—нясе іх уздоўж, на ўлоньне пакатых ды стромкіх берагоў... Усё афарбавалася ў мяккі, жоўта-сумны колер: і маўчыць вакольле, заціхла нешта, зьбіраецца прырода засьнуць—сном лёгкім, як ціхая радасьць; заснуць, каб ізноў потым прачнуцца ў поўнай красе...

І ціха—ціха...

Толькі шапаціць пажоўклае лісьце.

Шэпт яго журботна-васенны нявыразна даносіцца і да вёскі—у думках гоніць ціхія, маўклівыя радасьці—сум, апранутыя ў адзеньне жоўцені. Лісты жоўтыя шапацяць, адрываюцца ад бурых дрэў і нясуцца па ветру: заплямілі стрэхі хат і хлявоў—і так ціха шапацяць пад нагамі!

Дрэвы цяпер невясёлыя да вясны. А як вырасьце зялёны ўбор на іх—тады выкажуць іншыя пачуцьці...

Пашоў-бы далёка васеннымі сьцежкамі, што ажоўцены; пашоў бы проста па шляху роўнаму, з чорнымі дрэвамі, ды ўсё-б думаў: што было, што будзе. І тады-б выявіліся адчуваньні, як прастор вольнымі ды шырокімі.

На небе воблакі цёмныя, з просіньню, абозам вандруюць некуды, шукаючы нібы шчасьця, нібы горасьці.

І стаю я за вёскаю, што як гняздо; стаю на мяжы аголенага поля й сенажацяй—там рэчка, а далей бор. З поля далёкага пахне халоднай сіверкай, а ў лесе ня то заціша, ня то так прыемна чуць яго стогалосы шум сухіх гольляў з хвоямі.

А ў версе жаласна скігляць журавы, ляцяць яны то высока, то надта ўжо нізка, пад самым гумнамі. Тады здаюцца вялікімі, а ляцяць далёка, дзе ўсё для іх будзе інакшым: і колер адценьняў жыцьця, і сонца, і тое чым жыць можна і дыхаць, успамінаючы нявыразна-шырокае і далёка блізкае...

І паўстаюць думы.

На ўсе бакі пацягнуліся крыва дарогі, за вёскаю, паміж кустоў кучаравай лазы абкружыліся ды пашлі, як чалавек-валацуга, пабіраючыся ў бязьмежжа даль. Там-паміж гмахаў-заблудзіліся, згінулі, для людзкога вока. Дарогі чорныя, разбураныя. Дубцы кустоў лазьняку пад няласкавым напорам ветру, ціха гнуцца, а скручанае гольле чорнае як зямля.

На ўзгору вёска.

І тут закрыжаваліся дарогі па загонах; гуляе вецер, коўзаецца па полю, хіліць да долу сухія й пажоўклыя травы, што прастаялі ўлетку, а ўвосень згнілі—і цяпер пахнуць гнільлём з сіверкаю.

Хочацца мне думаць думы шырокія, звонкія, і ізноў іці ў даль, па нязьведаных сьцежках іці, якіх ніколі не абойдзеш.

І ўяўляецца так:

Шырокая зямля, ніколі не ахопіш зрокам; яна так шырока, як вольны думкі, як імклівы жаданьні ўперад. Туманы чорныя, нібы злоба людзкая, а калі сьветлыя, з просіньню, тады й пачуцьці людзей чысты-бы крынічная вада. Хмары поўзаюць над зямлёю і роняць сьлёзы, а з іх узрастае палын... І жывуць на зямлі людзі, вераць, складаюць часам у жыцьці сьмешныя да сьлёз драмы... І моцныя яны: будуюць моцнае і вялікае.

Прастор змоўк, нібы памёр, слухаючы ўважна казкі зямлі ды шырыню прастораў.

А ў гумнах, над вёскаю, стаіць гульлівы звон цапоў; пах кастры мяшаецца з пахам дыму, што так нізка сьцелецца па зямлі.

І пашоў я.

Перш за гумнамі, тады па полю, а лесе ўжо стала заціша і цёпла. Думаў я па дарозе, што буду ісьці вузкімі лясньімі сьцежкамі, а потым—выйду на шырокі і сьветлы шлях.

А ўсюды так ціха, толькі—шапаціць пажоўклае лісьце...

А. Дудар

# Тайга

Прывет табе, жыцьцё на волі...
М. Багдановіч.

І вось канец дарозе дальняй.
Нязнаны і далёкі край...
І над тайгой, як стужка сталі,
небеларуская зара.

Чамусьці моўкне сьмех і гоман:
штосьць прымушае разважаць—
страх перад будучыняй цёмнай,
ці па пакінутаму жаль...

Суровы край. У срэбных шатах
павеяў вечар стыньню злой.
Пялі вянкі сабе дзяўчаты,
агні палілі пад тайгой.

Суровы край. Куды ні глянеш—
колёны кедраў, воўна піхт,
нябёсы з сіняй парцэляны
і зор зялёныя снапы.

І працы будзе тут багата!..
Ня стане сіл, сасмагне кроў.
Беларусы збудуюць хаты
на цаліне другіх краёў...

. . . . . . . . . . .

Мо' там, на бацькаўшчыне цесна—
і шмат людзей, і шмат балот.
Мо' тут вальней сьлязам і песьням,
тут... за птушыны пералёт...

Там шмат людзей і казак болей.
Лясы, вазёры, паплавы.
Там межы на убогім полі
Палын, ды быльнік апялі
. . . . . . . . . . . . . . . .

Дык вось яно, гаротных выйсьце,
каб песьням сьветлым праззвінець...
Тут дні люцей і ледзяніцьцей,
тут сны суровей і цямней.

Цямнее зірк, цямнеюць твары:
шмат трэба працы, шмат і сіл.
каб зьнімшэлыя абшары
інакшым цьветам ўскаласіць.

Засеюць лёнам і пшаніцай
беларусы далёкі край.
Быць можа часам ім прысьніцца
зямлі пакінутай зара.

Забыты будзе хлеб з мякінай,
заглохне шлях і дальні сьлед...
О, праца марна ні загіне,
бо ў працы ўсё—жыцьцё і сьвет.

І ў працы бяз тугі, без болю
ўспаміны будуць дагараць...
„прывет табе, жыцьцё на волі!..“
Прывет табе, далёкі край.

1926 г.

---

Ал. Вяскова

# У нядзелю

*(Малюнак)*

Асеньнім днём, калі сонца ўсходзіць позна і заходзіць рана, калі дзень зробіцца кароткім, няпрыметным, а ноч доўгаю цягучаю, тады ў вёсцы адчуваецца нейкая ціш.

І вакол пуста. Рэдка дзе-ні-дзе на полі хто небудзь корпаецца: выварваючы апошнія гоні бульбы, ці зеблячы вузкую палоску іржышча. А бабы ў гэты час труць лён, чуцен стук языкоў у церніцах яшчэ здалёк, пахне прыгарэлым ільном, калі падыдзеш бліжэй.

Гоман тут стаіць вялікі, часам ён прарываецца гучным сьмехам усяе грамады: паказваюцца тады белыя зубы, а твар увесь чорны ад пылу, яшчэ робіць больш выразнымі іх.

А ў сьвяточныя дні вуліца маўчыць. А вечарам зьбяруцца ў хату чыю небудзь і тут праводзяць час у гульнях—гэта моладзь, а старыя сабраўшыся рэжуць у «воза» ці «кікса». Пакуль гаспадыня скажа: „Годзе, сёньня шалапіць галаву, заўтра не сьвяты, а сёньня ні будны дзень». Тады ідуць па хатах.

* * *

У адну нядзелю восені, я ўстаў позна. Глянуўшы ў вакно я заўважыў, як цэлая грамада моладзі стаяла каля цьвінтару. Царква была ўжо зачынена, бо абед-

ня даўно адслужылася. Мяне ўзяла цікавасьць чаго сабралася столькі людзей, хоць дзень быў пагодлівы, але-ж у тыя нядзелі сто:ькі людзей ня зьбіралася.

— Браток, Юрась, кінь ты гэта, ты-ж у Чырвонай арміі два гады служыў— чуў я падыходзячы бліжэй.

— Ды я нічога.. гэта яна хоча вельмі, каб з бацюшкам... і ён пачырванеўшы ад сораму, паказаў пальцам на маладую дзяўчыну. Яна апусьціла вочы і засарамеўшыся сказала:

— Дык, а як-жа іначэй, мая мама так выходзіла замуж.

— Ну, і бачыла-ж шчасьце твая мама—падаў хтось голас з грамады.

— Гутаркі, довады ішлі самыя рознастайныя. Я стаяў і гледзячы на шэсьць вазоў вясельнай дружыны не разумеў, што тут дзеецца.

—Ды вось, вы таварыш, самі разьбярэцеся, ціж гэта правільна ён робіць, гэ ты самы наш духоўнік—пачаў мне расказ ваць стары дзядзька.

— Умовіўся малады, вось, гэты наш, Юрась, з бацюшкам за шлюб чатыры рублі.

— А скуль гэта самі — перапыніў я.

Я з Яршоў, я еду з маладою ў пpыданых, а Юрась, малады, з пасёлку Махавіч.

— Дык вось, значыцца, умовіліся чатыры рублі, а калі прыехалі брqць шлюб, дык шэсьць.

— Ну і што?

— А тое, што мы ня хочам пераплачваць лішнія два рублі.

— Лепш было б, каб вы і гэтых не давалі.

— Ну вось і малады з сватам ідзе, што яны цяпер чулі — пе арвэў гутарку мой дзядзька.

— Зьбірайцеся хлопцы едзем да ма ладога—рашу а заявіў сват.

Калі яны зьбіраліся садзіцца на вазы з усіх бакоў чулася «Малайцы маладыя", а нехта нават закрычаў „Многія лета".

Як маладыя з усёю вясельнаю дружынаю пераехалі мост і ляскатаньне калёс чуць, чуць даносілась да сяла, тады пачалі ўсе разыходзіцца.

— А усё ж такі бацюшку сёньня не пашанцавала.

— Не, калі ж ён залішне ўжо дзярэ. Гандляром настаяшчым зрабіўся, трасца яго бакам—адказаў закурваючы самарослага табаку Тамаш.

К. Крапіва

# Каштан

(Байка)

Здарэньне гэтае было з канём,
Якога дзядзькам Каштаном
З пашанай жарабята звалі.
Пачуўшы раз, што гаспадар,
Які кош яек распрадаў,
Чубатую Рабушку хваліць,
Пакрыўдзіўся Каштан і кажа так:
— Дзівак!
За што хваліць яе?
Што па яечку ў дзень дае
І то ня ўсякі?
Я-б дваццаць адстаяў такіх чубатак
І ў дзень бы яек даў дзясяткі.
Ды што!—зараз ня меней, як дзесятак.
Калі ня верыцца, дык—вось!
Глядзі—ну чым не любата?—
Пазваў у сьведкі ён ката
І адтапырыў хвост.
— О, так! Бяспрэчна так,
Мой паважаны кося,
У гэтай справе ты мастак—
На дзіва ўдала зьнёсься:
Іў кош тут яек не сабраць,—
Пачаў з каня той строіць кпіны.
— А яйкі—першы сорт і нават бяз лупіны—
Ня трэба й абіраць".
І што-ж—Каштан ухвалу гэту
Прыняў за чыстую монэту.
. . . . . . . . . . . . . .
Якую-ж вывяду я тут назуку?
О, не! Ні гукуІ
Стоп!
Я далей—ані крышк:
Баюся «каштаноў», што нас пад мікроскоп
Гатовы разглядаць з сваё высознай вышкі,
Хоць самі мо' нясуць такія яйкі,
Як і герой вось гэтай байкі.

# БІБЛІОГРАФІЯ

## Першы блін, але ня комам

### „Уздым“, літаратурны зборнік Бабруйскай філіі „Маладняка“ 1926 г, 100 стар Ц. 50 кап.

Свае асобныя зборнікі дагэтуль выдавалі Калінінская, Аршанская, Слуцкая філіі «Маладняка». Бабруйшчына стала ззаду. У яе шэрагах толькі 9 шчыльна зьвязаных з філіяй таварышоў, якія працуюць стала, рэгулярна. Ды чалавек 20 яшчэ «высоўваецца».

Слабыя бакі працы: Адсутнасьць выстарчаючай выхаваучай работы у шэрагах аб'яднаных ею сяброу.—Слабая сувязь з шырокімі коламі рабочых і сялян. Слабое рабочае ядро організацыі—у Бабруйскую веску „Маладняк“ ужо уступіу, горад— амаль зусім не закрануу.

Але «Уздым» сьведчыць, што усе гэтыя недахопы працы Бабруйскія «маладнякоуцы» могуць зжыць. Бо ужо цяпер яны здолелі выдаць цікавейшы з усіх акруговых зборнікау:

1) Нічога «захапляючага» у зборніку няма.

2) Тэхнічна выдан зборнік — здавальняюча: добрая папера, цікавыя малюнкі, памылак мала.

3) Зьмест—бадзёры, цікавы, разнастайны.

— Праўда, нават найлепшыя вершы — Івашына, Вераса, Гліскай — новага не уносяць у сучасную тэхніку вершу. Але бадзёрыя настроі гэтых вершау—свае часовы.

Найлепшае у зборніку—апавяданьне Васілька «Гой».

Зьмены і зрухі у жыцьці сучаснага местачковага жыхарства зусім не адбіваюцца у Беларускай літаратуры. Мастацкае ж па форме, і па зьместу апавяданьне Васілька—аб амаладжэньні старога мястэчка вышла надта своечасова, чытаецца з з усе узрастаючаю зацікауленасьцю. – Таксама цікавы і гумарыстычныя разважаньні Міхася «Аб усім».

Жадаем кожнай акрузе выдаць хоць па аднаму «Уздыму», падобнаму маладнякоускаму зборніку.

Р. Ш-Тр.

## Пабольш такіх „дакумэнтау“!

### Міхась Зарэцкі. 42 дакумэнты і Двое Жвіроўскіх Выданьне ЦБ Маладняка, 1926. Цана 30 кап.

Двое Жвіроуск:х—апавяданьне аб тым, як савецкая школа зрабіла з сына бышага царскага чыноуніка сьвядомага піонэра. Як змагауся бацька з гэтым уплывам школы і як прагнау ад сабе сына політычна адсталы, несьвядомы бацька.

— Стары чынуша намалеван добра. Пачатак адрыву сына ад бацькі—слабей. Самы адрыу—дынамічна.

Але яшчэ больш дынамічна.

«42 дукамэнты» аб адным з эпізодау барацьбы з бандытызмам на Беларусі. Дакуманты—кароткія, лаканічныя—на тое ж яны і дукамэнты. Апрацоука «дакумэнтау»—на дзіва мастацкая, зьмест—захапляе. Наогул, гэтае апавяданьне Зарэцкага—адно з найлепшых ва усей беларускай літаратуры.

Р. НАВІНСКІ.

## „Песьня гасьне, мусіць“...

### І залацісьцей і сталёвей... — лірыка Ал. Дудар, выданьне Ц. Б. „Маладняка“, Менск. 1926 г., цана 30 кап.

Алесь Дудар вядомы у беларускай літаратуры, як «рэволюцыонэр з пялёнак».

Гэта добра сьцьвярджаюць яго ранейшыя зборнічкі: «Беларусь Бунтарская» і «Шанхайскі шоук».

Зборнічак «І залацісьцей і сталевей», калі і залацісьцей (што вельмі спрэчна), дык ні у якім разе не сталевей яго ранейшых вершау. Радкі:

«Вэучых сьцяжынах шмат
на раздарожжы...
Тых разудалых няма—
сэрца тугою варожыць».

бязумоуна, ня кажуць аб яго сталевасьці.

Стаушы на раздарожжы, Дудар сугірае жыцьцё у сумных, жалобных хварбах:

«Нам нявесела жыць—
мы шукаем забау.
Вечна у нас імжыць
тонкім туманам журба»

і далей:

«Рабінавы сум» над старым, над чужым і над новым (А. Г.) Дасягненьняу за дзевяць год соцыялістычнага будаунітва ен не заувважвае і на першай жа старонцы зборніку заяуляе:

«Усе прашло..
І сьледу больш няма—
і мяцежны шлях, і пераввоны»...

Дудар не бачыць тых гіганцкіх сьвядоу нашага будаунітва і таму яму здаецца:

«Палыном—раздольле»...

Гэта сьлепата прыводзіць яго да ідэалізацыі іншага жыцьця хуліганскага:

...—«Умеу я жыць і любіць—
па завулках ганяу сабак,
шыбы каменьнямі біу!»

Зярочнае, чорнае у Дудара сягоньня, назыраннае і заутра. Будучыня у яго уяленьні нешта «з сівымі крыльлямі» і убачыушы гэту будучыню Дудар становіцца, каб ей маліцца. Ен упадае у фэтышызм і будучыня здаецца яму страшнаю:

«Прыдуць людзі лікія, ды з каменьнямі прыдуць
прыдуць з крыкам зьвярыным».

Альбо:

«Зьвядуць мяне людзі у зьвярынец
і на іпуць:
рукамі не чапаць»

Каму-ж гэта хочацца сядзець у зьвярынцы? Дудар імкнецца вырвацца з гэтых дрвінау, дзе знаходзіцца «у п'яны вечар і у п'яны дзень», і (мусіць, як вышаушай з галавы) заяуляе, што зусім няведае, што будзе заутра, бо яму—

...«сягоньня—апошняй мяжой?»...

У рэшце Дудар даходзіць да таго, што шкадуе чаму зьмяняюцца эпохі, шкадуе чаму зьнікае старое:

Шкода што, Рым і Эллада
заснулі у тумане стагодзьдзяу».

Адарваушыся ад сучаснасьці, ен шукае крыніц для свайго творчасьці у старасьвеччыне; яго ці-

кавяць ня людзі, а багі—Стрыбог, Вішну, Озірыс, Ізіда, Горус, ен забіваецца у нейкі містыцызм:

«Вобразау дзіуных мяцеліца,
палкія строфы карана».

і там жа:

«Зьвіткі старыя разгорнуты
казкі раскажа папірус,
як для Ізіды і Горуса
з мертвых устау Озірыс»...

Пераканаушыся, што:

„Усе загіне у сьвеце, усе загіне» —
«не загіне толькі палкі момант»

Дудар ап'явяецца каханьнем, але і тут ен не знае у якіх завулках шукаць «залатое шчасьце». Скора розьчароуваецца і у гэтым і прыходзіць да вываду:

... і усе роуна ужо-ці жыць, ці пера-
стаць».

Бязумоуна, што гэткая творчасьць, якую і сам аутар называе «ад п'янага настрою», нічога не дае для беларускай літаратуры, для здаровага чалавека. І Дудар прав, калі кажа:

«Гэтак кніга—адкрылі і зноу закрылі,
прачыталі—дый зноу на паліцу».

У адным я з ім ня згодзен—ці будуць яго зусім чытаць? можа першы верш прачытае хто, а там—на паліцу. Кажу так за тым, што, ня толькі у сэнсе тэматыкі, зьместу, а і у сэнсе формальных дасягненьняу, Дудар гэтым зборнічкам, далей ранейшых, і кроку ня ступіу. Строфічная композыцыя—пераважна, за выключэньнем пяці-шасьці вершау,—чатырохрадкоуе. Рыфма таксама не вызначаецца „звонкасьцью“, «шмат банальных рыфм, як—спаткаць—прапаць, перабіць—засланіць і г. д.

Наогул, трэба сказаць, што гэты зборнічак Дудара і ні залацісьцей і не сталевей яго ранейшых. Золата у зборніку няма,—есьць пазалота, якая пад церцем крытычных паліцау ліняе і аблазіць.

Спадзяемся, што у наступных сваіх творах Дудар справіць памылкі свайго апошняга зборніку.

А. Г.

# Кавалак сучаснай вёскі

**Кузьма Чорны «Хвоі гавораць». (6 апавяданьняў). Бел. Дзярж. Выдав. 1926 г. Ц. 50 к.**

Нішто на зямлі не прападае бяз сьледу. І вока мастака па самых нязначных прыметах дабярэцца да сутнасьці «маленькай драмы», заувважыць іх «на пыльнай дарозе», падслухае, як «пробуюць грушы шумець», як «хвоі гавораць».—Але больш за усе новага знойдзеш у дарозе. Адсюль такое захапленіе дарогай, яе бясконцасьцю.

— «Грымела жалеза магутнымі гімнамі, і далячынь і бясконцасьць была у жоутай дарозе» (89 ст.).

— «Лягу я на зямныя дарогі—колькі на іх прапаухло і прашло істотау. І колькі яны прынясьлі па гэтых дарогах суму і радасьці!..

Абніму я зямныя дарогі» (109 ст.)

Але гэтыя дарогі расказваюць К. Чорнаму не аб мопы грамады, а аб жыцьці асобных адзінак. Ня дзіва—большасьць свайго жыцьця аутар пражыу на вёсцы. Апавяданьні захапляюць. Асабліва найлепшы з іх—«Хвоі гавораць». Аб юнацкай (незразумелай?) любві гавораць яны. Рытм і вобразы апавяданьня напамінаюць біблейскую «песьню песень», і амаль сучасную нам «песьню песень» вядомага яурэйскага пісьменьніка Шолома-Алейхэма.

Але, як ні многа расказваюць Кузьме вясковыя дарогі, пісьменьнік пачынае ужо разумець моц і хараство гораду.

«Толькі горад повен быу зыкау. Яны беглі над зямлей, шырокія, неабдымныя, магутныя сілай стварыушага іх чалавека. Яны маглі зрушыць сьвет сваею магутнасьцю—так гэта уздымалі яны істоту чалавека».

Спадзяемся, што матывы гораду, злучнай грамады, зацікавяць і будуць зразумелы Чорнаму ня менш, чым, так знаемыя яму. сялянскія настроі.

Р. Ш—Тр.

# Як працаваць піонэру

**Бібліотэчка з 15-ці паасобных кніжачак (гутаркі павадыра). Пераклады з расійскай мовы А. Валошкі і С. Музыкі. Выданьне Калінінскага Акругкому КПБ. Тыраж 4000 экз. Клімавічы—1926 г. Цана 90 к.**

У сучасны момант Савецкая Беларусь перажывае крызіс адное страшэннае хваробы—адсутнасьць дзіцячай мастацкай і выхавучай літаратуры.

Піонэрскім рухам ахоплена па Беларусі 70.000 дзяцей!

Здавалася-б, што ужо дауно пара задаволіць нашых дзяцей таннай, зразумелай кніжкай на роднай мове. Гэтае пытаньне становіцца яшчэ больш значным, калі мы па сваей беднасьці маем усяго толькі адно пэрыодычнае дзіцячае выданьне—штомесячную часопісь «Беларускі Піонэр».

——

Перада мною ляжыць невялікая кіпка кніжок—рэцэнзуемая бібліотэчка.

Надзвычайна лёгкай дзіцячай мовай напісаны расійскімі аутарамі кніжкі з гэтай бібліотэчкі. Бібліотэчка «Як працаваць піонэру»—гэта не сухія інструкцыі «як працаваць». Далека не! Гэта памастацку апрацаваныя парады, гэта камбінацыя прыемнага з карысным.

„Савет атраду і яго праца“, «Зьвеньні і атрад», «Партыя, комсамол і юныя піонэры», «Піонэры, дзеці і завод», «У паход за ведамі», «Дапамагай вёсцы», «Насьценная газэта і дзіцячыя корэспондэнты», «Піонэры у школе», «Піонэр, на барацьбу з бясграматнасьцю», «Піонэр, памятай аб 3-м законе» (інтэрнацыянальнае выхаваньне), «Піонэр—у сям'і прыклад», «Піонэр, будзь здаровым», „Піонэрскі клюб“, „Піонэрам аб гульні“, «Як чытаць кніжку»—вось зьмест бібліотэчкі. Як бачым, досыць шырокі, ахапляючы розныя галіны працы піонэрскага атраду.

Выхад у сьвет гэткага зьместу кніжок на беларускай мове, бязумоуна, трэба толькі вітаць.

На вялікі жаль прыходзіцца адзначыць другую старану мэдалі: як відаць, пры перавыданьні гэтае бібліотэчкі на беларускую мову, выдаўцом меуся на увазе толькі пераклад. А нашым піонэрам трэба было даць гэтыя кніжкі у апрацаваным выглядзе, прыстасаванымі да нашых умоу. Бо калі

пачытаць, напрыклад, некалькі радкоў з кніжкі «Піонэр, памятай аб 3-м законе», дык міжвольна на вуснах ухмылка зьяўляецца. Чытаем:

... «Можна склікаць агульны збор атраду рускіх (чаму не беларускіх?) дзяцей і атраду дзяцей месцовых нацыянальнасьцяй, арганізаваць супольную выстаўку работ»...

... «Можна наладзіць супольную экскурсію у бліжэйшыя кішлакі (узьбэкскія вескі), і аулы (каўкаскія вескі)». (Наўрад ці беларускія піонэры змогуць наладзіць гэткія экскурсіі! Іл. Бар.)

Тое самое і з прыкладамі. Прыклады узяты з жыцьця піонэраў РСФСР (бязумоўна, гэта добра для рускіх піонэраў), а для беларускай піонэрыі прыклады трэба было замяніць, бо сваё, роднае, куды цікавей за далекае, чужое. А падабраць прыклады з жыцьця нашай піонэрскай арганізацыі можна было-б...

Пераклад гэтае бібліотэчкі слабы як з боку стылістыкі, так і граматыкі.

Умовы провінцыі (Клімавічы) пашкодзілі таксама і на тэхнічны бок выданьня. Шэрая фарба, друкарскія памылкі, брыдкая ілюстрацыя.

— «На бязрыбі і рак рыба»—кажа народная прыказка. Тое самое можна сказаць і у адносінах гэтага выданьня. Усе ж такі «бібліотэчка» зьявілася своечасова, і бязумоўна, прынясе карысьць сваім зьместам нашым піонэрам.

А беларуская дзіцячая літаратура ой як патрэбна! Дзеці-ж наша зьмена, і выхаваньне іх залежыць ад самых нас. Задача нашых поэтаў і пісьменьнікаў, задача нашых грамадзкіх працаўнікоў стварыць, а Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва —распачаць выданьне беларускай дзіцячай мастацкай і выхаваўчай літаратуры.

Час не чакае.

Іл. Барашка

# У „Маладняку“

## Новыя выданьні

Вышлі з друку наступныя зборнікі Маладняковцаў: Ал. Дудар. «І маладосьцяй і сталлёй» (збор. лірыкі), М. Зарэцкі—«42 дакумэнты», Р. Мурашка «Сярод начны у лесе», Валеры Маракоў «Палескі», Юрка Гаўрук—„Васковыя рыскі“, Джэк Лёндан «Нязвычайны адрывак».

Акрамя гэтага на днях выйдзе асобным зборнікам поэты М. Чарота—«Леній».

Вышаў з друку 9 № часопісі «Маладняк»

ПАШТОЎКІ.

Вышла з друку паштоўка Якуба Коласа, апрача таго здадзены у друк новыя паштоўкі—віды Менску.

## З чужаземнай мовы

Маладняковец А. Мардвілка пераклаў на беларускую мову твор ведомага індускага пісьменьніка Робіндраната Тагора—«Садоўнік».

## Новыя творы

— У сучасны момант М. Зарэцкі скончыў раман, які пачне друкавацца са студзеня 1927 г. у часопісі «Маладняк».

— Ал. Дудар напісаў новую поэму, «Палаянка».

## Альманахі

Вышлі з друку літаратурна-мастацкія альманахі: Бабруйскай філіі «Маладняка»—«Узрым» і Барысаўскай філіі—«Маладняк Барысаўшчыны».

## Юбілей „Маладняка“

28 лістапада аб'яднаньне „Маладняк“ будзе сьвяткаваць свой 3-гадовы юбілей. Сьвята будзе праведзена пад лёзунгам паглыбленьня выхаваўчай працы і падліку дасягненьняў за мінулы пэрыод.

# У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве.

— ГАРБАЦЭВІЧ ВАСІЛЬ, аўтар п'есы «Чырвоныя кветкі Беларусі», прыслаў у ДВВ наступныя п'есы: «Зярняты для новай руні», «Прыд е і іх час» і «Пад вішневымі садкамі».

— Гэтымі днямі выйдзе з друку зборнік «Якуб Колас у літаратурнай крытыцы» (юбілейнае выданьне).

—Вышаў з друку зборнік апавяданьняў Беларускага Народнага поэты Я. Коласа «На прасторах жыцьця».

— Друкуецца III том твораў Бел. Нар. поэты Я. Купалы. У ім зьмешчаны сьвежыя творы поэты. Падрыхтаваны да друку гэтага поэты І том перакладных твораў.

— ГАРОТНЫ аўтар надрукаваных п'ес «Два жаніхі», «Лекары і лекі», і «Перамена» прапанаваў ДВВ для вясковага тэатру п'есы: «Праз сэрца благое», «Праклятая газэтка», «Курортнае», «Соль за соль», «Натрывалае сяброўства».

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

МАХНАЧУ, БАБІЦКАМУ, А. ШЫБКО, В. АСАЦЭ. «Старому», завіляю, К. ДУДАРОВАМУ, ПІТАНЮКУ—вершы друкавацца не будуць.

АШЫБЦЫ—Пра Нямеччыну й Кітай пішуцца у газэтах артыкулы, а не вершы.

НАУНІКУ. Верш не пойдзе. Сачыце за чыстатой мовы.

В. ВІТКО (Случчына). Табе трэба беларусавацца сур'езна. Адзін верш даем, пішы і дасылай болей, але уважай на мову і рыфмоўку. Нахіл да пісаньня есьць.

БЫКОЎСКАМУ. Адзін верш зьмяшчаем, шлі больш. Асьцярожна падыходзь да тэмы і мінай такія выразы: «Расцясьцерлася дзяўчына на ложку». Гэта непрыгожа і пышна.

Адказны рэдактар
Шукевіч-Трацьцякоў.

Галоўлітбел № 22507